ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 61 (2522)
ПЯТНІЦА
27
лістапада 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 4 кап.



**28 ЛІСТАПАДА 1970 года чалавецтва адзначае 150-годдзе з дня нараджэння Фрыдрыха Энгельса. Гэтае імя бясконца дарагое кожнаму савецкаму чалавеку, кожнаму сумленнаму чалавеку на зямлі. Ленін называў Энгельса самым выдатным пасля Маркса вучоным і настаўнікам пралетарыяту ва ўсім цывілізаваным свеце. Разам з Карлам Марксам ён заклаў падмурак вялікага рэвалюцыйнага вучэння — пераматаноснай ідэйнай зброі працоўнага люду.**

**Справа, якой ён разам са сваім вялікім сябрам — Марксам — прысвяціў жыццё, сёння пераможна крочыць па планеце. І няма сілы, якая б магла спыніць яе. Бо камунізм — непераможны. Бо за камунізмам, заснавальнікамі якога былі Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс, — будучыня чалавецтва!**

На здымку — скульптурны партрэт К. Маркса і Ф. Энгельса работы народнага мастака БССР З. Азгура.

На 4—5 старонках чытайце артыкул, прысвечаны знамянальнай гадавіне, — «Яны думалі і пра Беларусь».

# ПА ЗАКЛІКУ ПАРТЫІ— ПА ЗАГАДЗЕ СЭРЦА

## СА СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАГА СХОДУ ПАРТЫЙНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**24** ЛІСТАПАДА адбыўся справаздачна-выбарчы сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў. Са справаздачным дакладам на ім выступіў сакратар партыйнага бюро СП БССР Аляксей Кулакоўскі.

— Гэты год для нас, як і для ўсіх савецкіх людзей, асабліва знамянальны,—гаворыць дакладчык.—Усю нашу работу—творчую, грамадскую, партыйную—мы праводзілі з усведамленнем таго, што гэта год ленінскага юбілею. Такое ўсведамленне прыдавала нам актыўнасці, шчырага жадання зрабіць больш і лепш ва ўсіх галінах і сферах творчага і грамадскага жыцця.

А. Кулакоўскі падрабязна асвятляе работу партыйнага бюро за справаздачны перыяд, адзначае, што яна вялася ў цесным кантакце з сакратарыятам і прэзідыумам праўлення Саю-Саюза пісьменнікаў, гаворыць пра тыя пытанні, якія абмяркоўваліся на партыйных сходах, аналізуе работу сістэмы партыйнай адукацыі.

Дакладчык падкрэслівае, што галоўны крытэрый дзейнасці ідэалагічнай работы—гэта павышэнне росту палітычнай свядомасці і творчай актыўнасці пісьменнікаў, глыбокае разуменне імі палітыкі партыі і самы актыўны ўдзел у вырашэнні тых задач, якія стаяць перад калектывам, непрымірымасць да буржуазнай ідэалогіі і маралі. Камуністычная перакананасць чалавека, як вядома, праяўляецца перш за ўсё ў яго працы, у яго творчасці на карысць народа, у яго высокім усведамленні свайго грамадзянскага абавязку.

З гэтых пазіцый і зыходзіла партыйная арганізацыя Саюза пісьменнікаў, рыхтуючыся да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, з гэтага зыходзіць і цяпер у сваёй рабоце па падрыхтоўцы да XXIV з'езда КПСС. Выбіраючы формы і метады выхаваўчай прапагандысцкай работы, гаворыць А. Кулакоўскі, мы заўсёды імкнёмся садзейнічаць, памагаць нашым творчым сілам стаяць бліжэй да жыцця народа, глыбей разумець і адчуваць інтарэсы народа, інтарэсы нашай партыі і тыя задачы, якія ставіць партыя ва ўсіх галінах і сферах нашага жыцця.

Партыйная арганізацыя Саюза пісьменнікаў за апошні час стала яшчэ больш аўтарытэтнай, актыўнай, баявітай. Значна павысілася грамадская актыўнасць камуністаў і беспартыйных пісьменнікаў, іх пачуццё адказнасці за даручаную справу. А. Кулакоўскі гаворыць пра тыя здабыткі, з якімі пісьменніцкая арганізацыя ідзе да чарговага партыйнага з'езда, называе імёны пісьменнікаў, якія найбольш плённа працавалі ў часы падрыхтоўкі да ленінскага юбілею і працуюць цяпер, рыхтуючыся да XXIV з'езда партыі. Гэта нашы старэйшыя пісьменнікі—Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Максім Лужанін, Ілья Гурскі, Піліп Пестрак, Мікалай Аляксееў, Міхась Машара, Раман Сабаленка, а таксама—Іван Шамякін, Іван Мележ, Янка Брыль, Андрэй Макаёнак, Пімен Панчанка, Васіль Вітка, Міхась Калачынскі, Васіль Быкаў, Алесь Савіцкі, Эдзі Агняцвет, Еўдакія Лось, Уладзімір Юрэвіч, Іван Новікаў, Аляксей Русецкі, Аркадзь Марціновіч, Антон Алешка, Алесь Асіпенка, Іван Навуменка, Алесь Бачыла.

Друкуюць новыя раманы маладзейшыя па ўзросце пісьменнікі Іван Пташнікаў і Іван Чыгрынаў. Паспяхова працуюць таксама Барыс Сачанка, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Кудравец, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, Васіль Зуёнак і інш.

Далей прамоўца звяртае асаблівую ўвагу камуністаў на больш настойлівую і сістэматычную работу з творчай моладдзю. І не толькі ў Мінску, але і ў абласцях, дзе ёсць аддзяленні Саюза пісьменнікаў або літаратурныя аб'яднанні. Ён гаворыць пра тое, што Саюз пісьменнікаў яшчэ недастаткова дапамагае партыйным і камсамольскім органам выхоўваць літаратурную моладзь на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах рэспублікі.

— Арганізацыйна-творчая работа ў саюзе набыла ў гэтым годзе некаторае пашырэнне і паглыбленне,—гаворыць прамоўца.—У гэтай справе шмат залежыць ад кіраўнікоў секцый. І вось відавочны прыклад: узначаліў секцыю прозы Янка Скрыган і справы там намнога палепшыліся. Бюро секцыі прозы правяло за гэты год некалькі цікавых і карысных сходаў, вечароў, творчых сустрэч. Напэўна, усім, хто быў, запомніўся той вечар, на якім выступалі аўтары твораў, прысвечаных У. І. Леніну: І. Шамякін, В. Хомчанка, А. Вялюгін і іншыя. Вельмі цікавай і карыснай была сустрэча з І. Мележам, арганізаваная секцыяй прозы, дзе вялася шчырая гаворка пра майстэрства пісьменніка, пра яго творчую лабараторыю. Можна прывесці шмат добрых прыкладаў з работы секцыі дзіцячай літаратуры, якой кіруе член партбюро Васіль Хомчанка, секцыі крытыкі (старшыня Д. Бугаёў), камісіі па ваенна-шэфскай рабоце (старшыня М. Аляксееў), секцыі паэзіі (старшыня С. Грахоўскі), секцыі перакладу (старшыня Я. Семяжон).

А. Кулакоўскі гаворыць таксама пра недахопы, якія яшчэ маюць месца ў рабоце Саюза пісьменнікаў, у прыватнасці, у рабоце кансультантаў Саюза, падкрэслівае, што яны павінны быць у цэнтры ўсяго літаратурна-творчага працэсу, актыўна ўплываць на гэты працэс, накіроўваць яго. Абавязак кансультантаў—дапамагаць рабоце жанравых секцый, арганізоўваць творчыя вечары і сустрэчы, сачыць за работай літаратурных аб'яднанняў і гурткоў, а галоўнае—весці непасрэдную работу з аўтарамі.

Дакладчык адзначае, што партыйная арганізацыя разам з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў арганізавала і правяла шмат цікавых і карысных спраў: праведзены сімпозіум сумесна з рэдакцыяй «Литературной газеты», арганізоўваліся паездкі пісьменнікаў па ленінскіх мясцінах у нашай краіне і за мяжой, праводзіліся літаратурныя вечары, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, заслухоўваліся на прэзідыуме творчыя справаздачы маладых пісьменнікаў, праведзены семінар маладых драматургаў. Але частка запланаваных мерапрыемстваў усё ж такі засталася нявыкананай. Не ва ўсіх творчых секцыях праведзены справаздачна-выбарчыя сходы, не праведзены такія сходы ў некаторых абласных аддзяленнях Саюза пісьменнікаў, асабліва зацягнулася вырашэнне арганізацыйнай справы ў Гродзенскім аддзяленні.

— Ад стылю нашай работы залежыць вельмі многае,—гаворыць у заключэнне А. Кулакоўскі.—Мы часта скардзімся на недахоп часу для творчых спраў і ў той жа час не заўважаем, колькі яго ў нас марна прападае з-за нашай часам неарганізаванасці ў рабоце. Неабходна павысіць актыўнасць кожнага камуніста, неабходна пераадолець такое становішча ў нашай арганізацыі, калі некаторыя камуністы стаяць у баку ад грамадскай работы, не маюць партыйных даручэнняў. Праверка выканання прынятых пастаноў і планаў павінна стаць асновай нашай работы. Нам трэба шырэй і смялей карыстацца правам заслухоўвання індывідуальных справаздач як па творчых, так і па грамадскіх справах. Партыйнаму бюро абавязкова трэба ўлічыць гэта ў сваёй далейшай рабоце. Тады менш будзе такіх з'яў, калі мы нешта пачынаем і не даводзім да канца, не праяўляем у некаторых справах патрэбнай настойлівасці, паслядоўнасці. Усю нашу арганізацыйную і творчую работу неабходна весці з улікам падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС і чарговага з'езда пісьменнікаў.

Галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Л. Прокша падрабязна спыніўся на рабоце партыйнай групы рэдакцыі і на тых праблемах, якія вырашае калектыў штотыднёвіка.

А. Шаўня расказаў пра дапамогу, якую аказвала партыйнае бюро рабоце прафсаюзнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў за справаздачны перыяд.

— У дакладзе А. Кулакоўскага дадзены ўсебаковы аналіз работы партыйнай арганізацыі за год,—сказаў У. Юрэвіч. — У ім шмат цікавых фактаў, назіранняў, высноў. Шкада толькі, што ў ім няма грунтоўнага аналізу сучаснага літаратурнага працэсу, вельмі сціпла гаворыцца ў ім таксама і пра нашы літаратурныя здабыткі.

На думку У. Юрэвіча, адметнай рысай гэтага літаратурнага года стала тое, што ў прозе ўзнімаецца значэнне рамана як жанру. Шкада, гаворыць дакладчык, што большасць крытыкаў стаіць у баку ад літаратурнага працэсу, што пісьменнікі-камуністы яшчэ недастаткова выкарыстоўваюць у сваёй творчасці магчымасці такога жанру, як нарыс, рэдка бываюць на будоўлях, у калгасах і саўгасах рэспублікі. У. Юрэвіч зазначае, што партыйнае бюро павінна звярнуць больш пільную ўвагу на работу прыёмнай камісіі і сістэмы палітасветы пры Саюзе пісьменнікаў.

Пра дзейнасць Камітэта па ахове аўтарскіх правоў і дапамогу, якую аказвала партыйнае бюро Саюза пісьменнікаў, гаварыў Э. Валасевіч.

Б. Спрынчан і В. Зуб расказалі аб рабоце рэдакцый часопісаў «Неман» і «Вожык» па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны, павышэнні актыўнасці і адказнасці за даручаную справу ўсіх работнікаў.

Разгляду задач, якія стаяць перад пісьменніцкай арганізацыяй па прапагандзе мастацкай літаратуры, прысвяціў сваё выступленне М. Татур.

— Партыйная арганізацыя павінна ўдзяляць больш увагі пытанням творчасці пісьменнікаў, — сказаў у сваім выступленні А. Русецкі. — У справаздачным дакладзе адзначалася работа творчых секцый. У іх дзейнасці сапраўды яшчэ шмат недахопаў. А секцыі паэзіі і драматургіі наогул амаль не працавалі. Сакратары праўлення саюза павінны аналізаваць працэсы, якія адбываюцца ў літаратуры, выступаць з артыкуламі ў друку, клапаціцца пра тое, каб кожная новая літаратурная з'ява знаходзіла належную ацэнку.

А. Русецкі падкрэсліў, што ўсе камуністы павінны мець партыйныя даручэнні, што партбюро павінна больш дбаць пра стварэнне творчай атмасферы ў Саюзе пісьменнікаў, выказаў пажаданне, каб штогод праводзіліся традыцыйныя дні паэзіі, як гэта робіцца ў іншых рэспубліках.

Думку аб тым, што трэба часцей праводзіць творчыя справаздачы пісьменнікаў, выказаную ў дакладзе, падтрымаў А. Зарыцкі. Ён гаварыў таксама пра тое, што партыйная арганізацыя больш увагі павінна аддаваць рабоце з маладымі пісьменнікамі, клапаціцца пра іх творчы рост і грамадскую актыўнасць.

С. Шушкевіч выказаў заклапочанасць тым, што многія кнігі і творы, надрукаваныя ў перыядычных выданнях, застаюцца па-за ўвагай крытыкі, а калі і рэцэнзуюцца, то павярхоўна, аднабакова.

У спрэчках па дакладзе выступіў таксама дырэктар Беларускага аддзялення Літфонду СССР Ф. Міхееў.

— У грунтоўным справаздачным дакладзе разгледжаны шмат якія пытанні работы партыйнай арганізацыі, — сказаў І. Шамякін. — Аднак, — заўважыў ён, — самае галоўнае — творчая работа пісьменніка — не знайшла ў ім належнага адлюстравання. Варта было падагуліць, што ж зроблена за мінулы год у нашай літаратурнай гаспадарцы, прааналізаваць тэндэнцыі развіцця прозы, паэзіі, драматургіі, разгледзець стан крытыкі. Гэты аналіз тым больш неабходны цяпер, напярэдадні такіх важных падзей, як XXIV з'езд партыі і чарговы з'езд пісьменнікаў.

І. Шамякін гаворыць таксама, што партыйная арганізацыя Саюза пісьменнікаў за апошні час значна ўмацавалася арганізацыйна, вырасла колькасна, што партыйнае бюро імкнулася выкарыстоўваць розныя формы і метады работы з камуністамі, удасканальвала свой стыль работы. І ўсё гэта робіцца дзеля таго, каб з'яўляліся новыя кнігі, спектаклі, кінафільмы, тэлепастаноўкі, у якіх па-сапраўднаму хвалююча была б адлюстравана стваральная дзейнасць савецкага чалавека.

На сходзе з прамовай выступіла сакратар Ленінскага РК КПБ Р. Піонава.

У пастанове, якую прыняў партыйны сход, адзначаецца, што падрыхтоўка да XXIV з'езда КПСС і да пісьменніцкіх з'ездаў павінна быць пакладзена ў аснову ўсёй работы пісьменніцкай арганізацыі, што ўсю сваю ўвагу партбюро, сакратарыят і прэзідыум Саюза пісьменнікаў павінны звярнуць на вырашэнне найбольш важных творчых пытанняў, на стварэнне новых мастацкіх твораў, якія адлюстроўвалі б гераічнае мінулае народа і яго працоўныя подзвігі ў барацьбе за стварэнне матэрыяльнай базы камунізма.

Сход абраў новае партыйнае бюро, у склад якога ўвайшлі М. Вінагораў, В. Зуб, П. Кавалёў, А. Кулакоўскі, Я. Кучар, Г. Папоў, Л. Прокша, А. Русецкі, М. Танк, В. Хомчанка, І. Шамякін, А. Шаўня, Ул. Юрэвіч. Сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў зноў абраны Аляксей Кулакоўскі

На справаздачна-выбарчым сходзе адбыліся таксама выбары дэлегатаў на XVI партыйную канферэнцыю Ленінскага РК КПБ, якая адбудзецца 26 снежня. Дэлегатамі абраны: А. Асіпенка, І. Грамовіч, М. Калачынскі, А. Кулакоўскі, П. Пестрак, А. Русецкі, Я. Семяжон, Б. Спрынчан і М. Танк.

З пошты ЛіМа

# А ГЭТУ ШКОДУ ЯК НАЗЫВАЦЬ?

**Вельмі добра, што «Літаратура і мастацтва» на сваіх старонках выступае з артыкуламі аб ахове прыродных багаццяў нашай рэспублікі. Апошні матэрыял на гэтую тэму, які спыніў маю ўвагу, быў аб Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку, змешчаны 9 кастрычніка г.г. Зацікавіў таму, што, аказваецца, жыву блізка ля яго. «Аказваецца», бо да прачытання артыкула я, ды і бадай ніхто не ведаў, што такі запаведнік існуе. Правільна газета адзначае, што ніякай растлумачальнай работы сярод насельніцтва не праводзіцца, што рэжым запаведніка існуе толькі на паперы.**

**Убарць і Сцвіга працякаюць і па Лельчыцкаму раёну. А вось ніхто не ведае, поймы гэтых рэк на тэрыторыі Лельчыцкага раёна з'яўляюцца запаведнымі ці не! У пастанове, якая была змешчана ў друку, трэба было назваць не толькі раёны запаведніка, але і па тэрыторыі якіх сельсаветаў, нават вёсак праходзіць запаведная зона.**

**Цяпер аб пытанні, вынесеным у загаловак. Па рацэ Убарць кожны год ад вясны да восені ідзе малявы сплаў лесу. Гэта прыносіць вялікую шкоду. Мне не раз даводзілася назіраць такі малюнак. На берагах ракі асела многа бярвенняў. Багром іх спіхнуць не пад сілу. На выручку прыходзіць тэхніка. Магутныя трактары - тралёўшчыкі, бульдозеры знішчаюць усё жывое на сваім шляху. У раку звальваюцца не толькі бярвенні, але і сам бераг разам з растучымі на ім лазняком, алешнікам і нават прыгажунамі дубкамі і бярозкамі. У выніку рака засмечваецца, мялее. Таму і не дзіўна, што ў нашым раёне рака на працягу толькі двух гадоў у многіх месцах змяніла сваё рэчышча, стварыўшы многа старыц.**

**Хіба ж такое можна дапускаць, тым больш у запаведніку! Як аматар прыроды, ніяк не магу пагадзіцца з тым, каб у запаведніку гаспадарылі піла, сякера і тым больш аманал. Праўда, кажуць, што так будзе толькі да 1975 года. Але ж за пяць гадоў нават пры самых разумных лесараспрацоўках ад векавых дубоў ды сосен нічога не застанецца. Пры гэтым трэба ўлічыць і той факт, што частка дрэў будзе знішчана самавольнымі высечкамі. А колькі шкоды жывой прыродзе нанясуць браканьеры! У нас, напрыклад, паўсюдна днём і ноччу глушаць рыбу. І ў гэтым, як ні дзіўна, вінаваты ў першую чаргу лясгасы і хімлясгасы. Гэта свайго роду забеспячэнцы браканьераў. Бікфордаў шнур, капсулі, дэтанатары, толаманал—вось тая зброя, якую набываюць браканьеры непасрэдна ў гэтых арганізацыях. Вядома, ім там гэтага не выпісваюць, як дровы. Крадуць узрыўчатку хімлясгасаўскія рабочыя-ўзрыўнікі і прадаюць браканьерам. І пракантраляваць гэта не так лёгка. Пень, маўляў, мы і «зубамі вырвем», а ўзрыўчатку сэканомілі для глушэння рыбы.**

**Адным словам, ці не час усё гэта спыніць! Запаведнік не можа быць запаведнікам, пакуль у ім будзе гаспадарыць сякера.**

**Павел ШЫБУТ**

г. п. Лельчыцы.

# ЯНЫ ДУМАЛІ

М. ЕРМАЛОВІЧ



ВЯЛІКІЯ правадыры міжнароднага пралетарыяту Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс, з выключнай навуковай глыбінёй адкрываючы агульныя для ўсяго чалавецтва законы грамадскага развіцця, у той жа час уважліва ўглядаліся ў жыццё шматлікіх краін і народаў свету, адзначалі своеасаблівасць іх гістарычнага лёсу. Убачылі яны і нашу Беларусь, хаця гэта і нялёгка было, бо яна ў той час была пазбаўлена свайго нацыянальнага імя. І не толькі ўбачылі, але і праяўлялі шматбаковую зацікаўленасць да Беларусі, глыбока і дэталёва яе ведалі, пра што сведчаць іх творы, перапіска, архівы.

## АД СТАГОДДЗЯ ДА СТАГОДДЗЯ

Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу грунтоўнае знаёмства К. Маркса і Ф. Энгельса з гісторыяй Беларусі. З іх твораў мы можам атрымаць яскравае ўяўленне аб асноўных этапах і важнейшых сацыяльных працэсах у гістарычным развіцці беларускага народа з глыбокай старажытнасці і да канца XVIII стагоддзя.

Як вядома, першапачатковым і агульным для рускага, украінскага і беларускага народаў быў кіеўскі перыяд іх гісторыі. К. Маркс у сваёй працы «Тайная дыпламатыя XVIII стагоддзя» (надрукавана на англійскай мове ў Лондане ў 1899 г.) даў вычарпальную характарыстыку Кіеўскай дзяржавы, якую ён называў «Імперыяй Рурыкавічаў», паказаў прычыны яе росту ў IX—X ст. ст. і паступовага заняпаду, пачынаючы з XI ст. Так, ён гаворыць, што ўжо пры Кіеўскім князі Ізяславе, што княжыў з 1054 г. па 1078 г. і валодаў Кіевам і Ноўгарадам, усе «астатнія князі карысталіся неабмежаванай уладай». Гэта добра бачна і на прыкладзе Полацкага княства, якое к гэтаму часу выдзелілася ў асобную палітычную адзінку старажытнай Русі. К. Маркс адзначаў, што Кіеўская дзяржава была папярэдніцай утварэння шэрагу дзяржаў на Усходзе Еўропы, у тым ліку і Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзіла і Беларусь.

Ф. Энгельс адкінуў валюнтарысцкія тэорыі дваранска-буржуазнай гістарыяграфіі, паводле якіх Вялікае княства Літоўскае ўтварылася шляхам заваявання літоўскімі князямі беларускіх і ўкраінскіх земляў. Ён паказаў, што гэта было мірнае далучэнне, адной з важнейшых прычын якога была пагроза татарскага нашэсця: «У той час, калі Вялікаросія папала пад мангольскае іга, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства». Сапраўды, няма ніводнай крыніцы, якая б пацвярджала факт заваявання літоўскімі князямі беларускіх земляў. З прыведзеных слоў бачна, што Энгельс лічыў гэту дзяржаву літоўскай толькі па назве, што фактычна так і было. Маркс таксама глядзеў на Вялікае княства Літоўскае, як на славянскую «рускую» дзяржаву. Ён пісаў у сваёй працы «Сцепька Разін»: «Русь тады (у XIV-XVI ст.ст. — **М. Е.**) была падзелена на дзве дзяржавы: Маскву і Літву». Як вядома, уласна літоўскія землі займалі толькі адну дзесятую ўсёй тэрыторыі дзяржавы, і яны не маглі мець дамінуючага значэння ў Вялікім княстве Літоўскім. Ф. Энгельс адзначаў, што ва ўладанні саміх літоўцаў былі «паўночныя правінцыі Прыбалтыкі», г. зн. уласна літоўскія землі, а не ўсе землі дзяржавы.

Гаворачы пра народы якія насялялі Вялікае княства Літоўскае, Ф. Энгельс указаў на беларусаў і на тэрыторыю, якую яны займалі. Асабліва важна тое, што Энгельс прызнаваў ужо для таго часу факт існавання самастойнай беларускай мовы і вызначыў вельмі дакладна яе месца ў сістэме другіх славянскіх моваў. Ён пісаў, што беларусы гавораць на мове «сярэдняй паміж польскай і рускай, але больш блізкай да апошняй».

К. Маркс занёс у свае «Храналагічныя выпіскі» шматлікія факты з гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Так, ён адзначыў паход татарскага князя Бурундая на беларускія і літоўскія землі ў 1258 г. К. Маркс асаблівую ўвагу звяртае на вялікіх літоўскіх князёў Віценя і Гедыміна, на іх смелыя і паспяховыя паходы супраць варожых дзяржаў, у прыватнасці, супраць нямецкіх крыжакоў. Ён указаў, што пры Гедыміне Вялікае княства Літоўскае пашыраецца ўсё больш і больш на усход, уключыўшы ў свой склад Уладзімір Валынскі і Кіеў. Маркс адзначыў часовае аслабленне літоўскай дзяржавы пасля смерці Гедыміна ў выніку спрэчак яго сыноў, пакуль улада не перайшла да самага здольнага з іх. Ён падкрэсліў, што Тэўтонскі ордэн «у першай палове XIV ст. стаў сур'ёзнай пагрозай для Польшчы, Літвы і другіх краін Усходу». Маркс адзначыў першае аб'яднанне Польшчы і Літвы, якое адбылося ў 1386 г. пры Вялікім князі Літоўскім Ягайлу, абраным у выніку гэтага польскім каралём.

К. Маркс уважліва разглядае ўзаемаадносіны Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы ў XIV-XVI ст. ст. Ён фіксіруе шматлікія войны паміж імі, паступовае наступленне Маскоўскай дзяржавы і заняцце ёю паасобных тэрыторый Вялікага княства Літоўскага.

У 1569 годзе адбылася Люблінская унія, якая шырока адчыніла дзверы для наступлення польскіх феадалаў у саюзе з каталіцкай царквой на Беларусь і Украіну. Гэта выклікала ўздым класавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў. Напалоханыя гэтым рухам, які пагражаў і іх класавым інтарэсам, беларускія і ўкраінскія феадалы пачалі здраджваць свайму народу і пераходзіць на бок яго класавых і нацыянальных ворагаў. Яны, заахвочаныя рознымі прывілеямі, сталі пранікацца інтарэсамі польскіх феадалаў, пераходзіць у каталіцкую веру і засвойваць польскую мову і культуру. На гэту з'яву, якая таксама аказала важны ўплыў на істотныя змены ў класавым саставе беларусаў і ўкраінцаў, указаў Ф. Энгельс, адзначаючы, што «дваранства Беларусі і Маларосіі моцна апалячылася». Ён таксама паказваў, што, пачынаючы з XVI ст., калі ў Польшчы сталі панаваць езуіты, праваслаўных, да якіх перш за ўсё адносіліся беларусы і ўкраінцы, «вымушалі далучацца да рымска-каталіцкай царквы». У выніку гэтага «значная частка праваслаўных у XVI стагоддзі была вымушана прызнаць вяршэнства папы, і яны сталі называцца уніятамі». І ўсё ж, нягледзячы на рэлігійны ўціск, многія з праваслаўных «захавалі ва ўсіх адносінах вернасць сваёй ранейшай... рэлігіі». Гэта былі галоўным чынам, зазначае далей Ф. Энгельс, «прыгонныя, у той час як іх высакародныя паны амаль усе былі каталікамі».

Прымусовае акаталічванне езуітамі праваслаўных на Украіне і Беларусі, як адзначыў Ф. Энгельс, «давала вялікарускім царам жаданую падставу для дамаганняў на тэрыторыю... Літоўскага княства». Ён таксама ўказваў, што рускі царызм, калі яму было выгадна, нават падтрымліваў барацьбу ўкраінскіх і беларускіх сялян супраць польскіх арыстакратаў, але калі яго мэты былі дасягнуты, царскія «салдаты зноў вярталі прыгонных пад прыгнёт іх паноў». Так, напрыклад, было ў 1768—69 гг., калі царскія войскі задушылі «Каліўшчыну» — паўстанне сялян Правабярэжнай Украіны супраць польскіх паноў, і ў 1812 г., калі яны расправіліся з беларускімі сялянамі, якія знішчалі маёнткі польскіх паноў, што перайшлі на бок Напалеона.

Ф. Энгельс паказаў прагрэсіўнасць факту далучэння Беларусі да Расіі, якое адбылося ў канцы XVIII стагоддзя. «На-шляхецку сонная Польшча» ў эканамічным развіцці намнога адставала ад Расіі, да таго ж яна канчаткова згніла, яскравым выражэннем чаго была выключная прадажнасць шляхты — правячага класа Рэчы Паспалітай. Вядома, такая дзяржава не магла быць дарагой для беларусаў і ўкраінцаў. Томячыся ў цяжкой няволі, яны лёгка маглі перайсці пад уладу другой дзяржавы. Ф. Энгельс і адзначыў тую лёгкасць, з якой Беларусь і частка Украіны, далучыліся да Расіі: «Большая частка Польшчы, так званая Заходняя Расія, гэта значыць Беласток, Гродна, Вільня, Смаленск, Мінск, Магілёў, Валынь і Падолія, пачынаючы з 1712 г., за нязначным выключэннем, спакойна падначаліліся панаванню рускіх; яны і не пашавяльнуліся, за выключэннем нямногіх гараджан і дваран у асобных месцах». З далучэннем да Расіі пачаўся новы перыяд гісторыі Беларусі, шчыльна звязаны з гісторыяй вялікага рускага народа.

## ...І АД ІМЯ БЕЛАРУСКАГА СЕЛЯНІНА

Асаблівую ўвагу Маркс і Энгельс удзялілі становішчу Беларусі і беларускага народа ў XIX ст. Чытаючы працы рускіх пісьменнікаў і даследчыкаў, К. Маркс і Ф. Энгельс падкрэслівалі і выпісвалі і тыя месцы, якія датычылі Беларусі.

К. Маркс уважліва выпісваў тыя месцы канспектуемых кніг, у якіх гаварылася аб прыродных умовах беларускіх губерняў. З кнігі Скалдзіна «У глушы і сталіцы» (яе пазней высока ацэньваў У. І. Ленін) ён даведваецца, што для Мінскай губерні характэрны балоты і лясы, для Гродзенскай — зыбучыя пяскі, а Віленская ў большай частцы — неўрадлівая. З кнігі Янсона «Вопыт статыстычных даследаванняў аб сялянскіх надзелах і плацяжах» ён выпісвае месцы, дзе гаворыцца, што Мінская, Гродзенская, Віленская і частка Віцебскай губерні маюць пясчана-гліністую і пясчаную глебу, што значная частка іх пакрыта пясчанымі дзюнамі. К. Маркс таксама занатаваў, што паўднёвая частка Мінскай, паўднёва-ўсходні кут Гродзенскай губерні ўваходзяць у так званае Пінскае Палессе, пакрытае вялізнымі балотамі (тут ад сябе ён дадаў «дрыгвою») і пяскамі (і зноў дадаў «усюды вялікая лясістасць»). Як добра ведаў К. Маркс тэрыторыю Беларусі, сведчыць такі факт. Пералічваючы ў сваёй кнізе беларускія губерні, Янсон не назваў Магілёўскай. Гэта адразу заўважыў К. Маркс і зрабіў заўвагу: «А Магілёў?» Пра глебу гэтай губерні ён запісвае, што яна спустошаная ці неўрадлівая.

К. Маркс быў добра знаёмы з умовамі землекарыстання ў Беларусі. Так, ён занатоўвае, што ў Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губернях пераважае падворнае землекарыстанне, у той час як у Віцебскай і Магілёўскай губернях, накшталт Вялікаросіі, абшчыннае.

К. Маркс ведаў, што асобныя групы дробных дваран у Беларусі называюцца панцырнымі баярамі і аднадворцамі, што казённыя маёнткі ўпраўляюцца за кошт казны ці здаюцца ў арэнду, што ў іх замест аброку існуе паншчына, якая паступова ператвараецца ў пазямельны падатак. К. Марксу было вядома, што ў беларускіх губернях адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі рэгулююцца інвентарнымі правіламі, якія ўводзяцца для таго, каб паслабіць сувязь паміж сялянамі і іх польскімі памешчыкамі.

К. Маркс і Ф. Энгельс уважліва сачылі за правядзеннем рэформы 1861 года. Яны адразу ўбачылі яе грабежніцкі характар, бо ў выніку яе становішча сялянства яшчэ пагоршылася, што было характэрна і для Беларусі. У канспекце кнігі Скалдзіна К. Маркс запісвае: «У Віленскім генерал-губернатарстве становішча пасля рэформы стала, несумненна, горш за ранейшае». У пацвярджэнне гэтага К. Маркс выпісвае такі факт. У Паўночна-Заходніх губернях (Віцебскай, Мінскай і Гродзенскай) з іх неўрадлівымі глебамі быў устаноўлены для сялян аброк у 3 рублі з дзесяціны — «сума, якой там ніколі нельга сабраць — ні раней, ні пазней». Такім чынам, запісвае К. Маркс, «Згодна з палажэннем 1861 г. польскае дваранства фактычна ўстанавіла такія аброкі, якія нават для сялян ва ўрадлівых раёнах чарназёмнай паласы былі б не пад сілу. І самае важнае тое, што гэты непамерны аброк мог быць павышаны губеранскім прысуствіем па патрабаванні памешчыкаў». Падводзячы вынікі рэформы 1861 г. у Беларусі, К. Маркс пісаў: «Мясцовае палажэнне для губерняў Паўночна-Заходняга краю прызнае за сялянамі толькі тыя землі, якімі яны карысталіся да 19 лютага 1861 г., іншымі словамі, яно санкцыяніравала ўсе крадзяжы памешчыкамі інвентарызаваных (1847 г.) земляў і пакінула без усялякай абароны вялізную масу абяздоленых парабкаў».

Калі ў 1863 г. у Польшчы, Літве і Беларусі адбылося паўстанне, царскі ўрад зрабіў захады, каб не дапусціць яго пашырэння. К. Маркс у сваіх канспектах адзначае іх. Гэта абавязковы выкуп, зніжэнне выкупных плацяжоў і аброкаў, ануляванне па-грабежніцку складзеных выкупных дагавораў, надзяленне зямлёй беззямельных. Аднак гэтыя меры, якія насілі больш дэмагагічны, чым фактычны характар, істотна не змянілі становішча беларускага сялянства.

К. Марксу была добра вядома гаротная доля палескага селяніна, і ён у канспекце кнігі Янсона дадае ад сябе: «Няма нічога больш бядотнага за становішча сялян у палескай (Пінск) частцы Заходніх губерняў». К. Маркс адзначыў, што нямнога лепш становішча сялян у Магілёўскай губерні з яе неўрадлівымі глебамі. Таму не дзіўна, што абцяжараныя зборамі сяляне гэтай губерні не раз звярталіся з заявамі дазволіць ім адмовіцца ад сваіх надзелаў і перасяліцца ў другія губерні. Энгельс таксама звярнуў увагу на вялікую суму нядоімак, якія накапіліся за сялянамі Магілёўскай губерні з 1862 г. па 1876 г.

К. Маркс не абышоў сваёй увагай ніводнай групы абяздоленых сялян Беларусі. Так, ён запісаў, што ў заходніх губернях усе беззямельныя, агароднікі, большая частка тых, што маюць невялікія надзелы, жывуць не надзеламі, а заробкамі, якія вельмі нізкія. К. Маркс ведаў і пра такую спадчыну прыгонніцтва на Беларусі, як сервітуты, і ў сувязі з гэтым звярнуў увагу на барацьбу беларускіх сялян за права карыстання ўгоддзямі, лясамі, пашамі і інш.

Будучы выразнікамі інтарэсаў прыгнечаных усяго свету, К. Маркс, Ф. Энгельс гаварылі і ад імя беларускага сялянства, жыццё якога яны добра ведалі і цяжкай долі якога глыбока спачувалі.

## «ЛІТОЎСКІ РУХ— ЗАРАЗ САМАЕ ВАЖНАЕ»

У студзені 1863 года ў Польшчы пачалося паўстанне, накіраванае на заваяванне нацыянальнай незалежнасці. К. Маркс і Ф. Энгельс адразу ацанілі яго вялікае значэнне для распальвання полымя рэвалюцыйнай барацьбы ў Еўропе. К. Маркс пісаў, што з пачаткам польскага паўстання «ў Еўропе зноў шырока адкрылася эра рэвалюцый». Ф. Энгельс асабліва адзначыў значэнне польскага паўстання для прывядзення ў рух усёй Расіі. Пазней У. І. Ленін таксама падкрэсліваў вялікую ролю польскага нацыянальнага руху ў справе абуджэння дэмакратыі ў Еўропе. Ён пісаў: «Пакуль народныя масы Расіі і большасці славянскіх краін спалі яшчэ непрабудным сном, пакуль у гэтых краінах **не было** самастойных, масавых, дэмакратычных рухаў, **шляхецкі** вызваленчы рух у Польшчы набываў гіганцкае, першаступеннае значэнне з пункту гледжання дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, не толькі ўсеславянскай, але і ўсееўрапейскай». Польскі нацыянальны рух меў першаступеннае значэнне для рэвалюцыйнага абуджэння Беларусі і Літвы, дзе ўслед за Польшчай таксама выбухнула паўстане, на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі, вялікі беларускі рэвалюцыянер, умелы і энергічны арганізатар народных мас. Рэвалюцыйная дзейнасць К. Каліноўскага праходзіла ў выключна складанай абстаноўцы. Яму прыходзілася весці барацьбу з рознымі палітычнымі плынямі ўнутры паўстання. Яго паслядоўная дэмакратычная пазіцыя ў кіраўніцтве паўстаннем выклікала нездаволенасць і прамую варожасць з боку кіраўнікоў польскага паўстання, галоўнай задачай якіх было стварэнне самастойнай Польшчы. Аб задавальненні інтарэсаў сялян, аб канфіскацыі памешчыцкіх земляў яны нават не гаварылі, што зрабіла польскае паўстанне непапулярным сярод сялян і што бы-

Знала я дружбу—без клятваў,
без абяцанняў,—
Не адзявала яна свой фальшывы
ружовы ажур,
Ды як сагравала ў сцюдзёнае
лютае ранне,
Як ратавала яна ад жыццёвых
віхур!..

Натхняла на подзвіг—здаецца,
прайшоў бы ўвесь свет ты,
На смерць бы пайшоў—і ніякі
не страшны страх...
Мінулі гады, а душа і дагэтуль
сагрэта
Цяплом тым далёкім ад дружбы
святой кастра.

## НЕ ПІШЫ МНЕ ПІСЕМ НА МАШЫНЦЫ

Не пішы мне пісем на машынцы
Шрыфтам металёвым і халодным,
Дзе любая літара з-пад пальца
Звычным штампам на паперу
ляжа.
Дастаю з канверта ў хваляванні
Доўгі ліст твой—акуратны, чысты,
Пазіраю і ўздыхаю сумна:
Ні адной галоснай ані зычнай
Сэрца не сагрэла цеплынёю.
Я уважна ліст твой разглядаю:
Ён, нібы пейзаж той аднастайны,
Ад якога, едучы наперад,
Часам стане моташна і нудна,
Або, скажам, дзікая пустыня,
Дзе адны пясчаныя буруны,
І нішто тут не ажывіць вока—
Ні адной іскрыстае расінкі,
Каб хоць трохі уталіла смагу,
Хоць зусім ад смагі паміраеш...

Ты пішы мне ўласнаю рукою,
Проста так звычайна, як умееш,
Дзе пахіла, дзе радком
няроўным...
Па тваім пісьме чытаць хачу я
Твае думы і душы парывы:
Тут знянацку ахапіла горыч,
І радка ў сумненні не закончыў,
Тут рука дрыжэла ў хваляванні...
І сярод параскіданых літар
Я знайду бліскучыя іскрынкі,
Што на сэрца радасцю кладуцца

І ўталяюць ад жывога болю—
Сярод іх знайду крупінкі шчасця...

●

Калі абманулі надзеі цябе,
Растаялі, быццам аблокі,
Не трацць свае сілы ў пустой
барацьбе,
Глянь—шлях прад табою шырокі.

Цябе павядзе ён на вольны
прастор—
Далей ад пакут і ад гора..,
Так воды часамі з-пад ціны густой
Прарвуцца
і трапяць у мора.

*З пошты ЛіМа*

# ЗНАЙШЛІ... СЯКЕРУ ПАД ЛАВАЙ

Аб папулярнай маладзёжнай перадачы «Алё! Мы шукаем таленты» гаварыць няма патрэбы. І можна зразумець цікавасць тэлегледача, калі ён раптам назву гэтай перадачы прачытаў у праграме Беларускага тэлебачання.

Я хачу спыніцца на адной такой перадачы, што вялася ў канцы кастрычніка з Гродна. Хоць позна выходзіла ў эфір, а дванаццатай гадзіне, але свяціліся вокны ў многіх хатах нашай вёскі.

Прынёманскі край вядомы сваімі песнямі і выканаўцамі, і я быў упэўнены, што ўбачу гэтым позім вечарам і новае і цікавае.

І вось выходзяць выканаўцы адзін за другім на эстраду. Глядзіш, слухаеш, а ўражанне такое, быццам прысутнічаеш на звычайным канцэрце мастацкай самадзейнасці. Але памятаеш пра рубрыку і чакаеш: «Вось зараз... вось зараз будзе тое, дзеля чаго сядзім да поўначы».

А дыктар гаворыць пра апошняга выканаўцу. Дык дзе ж таленты?

Мне здаецца, іх у у Гродна дрэнна шукалі. Проста ўспомнілі пра абласны агляд мастацкай самадзейнасці і запрасілі тых, хто быў бліжэй, «пад рукою». І адзенне — тое, што прымільгалася на аглядах, — кепская стылізацыя пад народнае.

Як адзначыла журы, спевакі былі неважнецкія. Было і гугненне, і няправільнае вымаўленне, і фальшывасць тону. А інструментальныя аркестры былі як дзве кроплі вады падобныя да аркестраў з Віцебска і тых, што выступалі па Цэнтральным тэлебачанні.

Няўжо нельга было папярэдне ў Гродне сабраць свае журы? Ёсць жа музычна-педагагічнае і культасветвучылішчы, знаўцаў хапае. Праслухалі б выканаўцаў песень, інструментальныя аркестры перад тым, як выступіць перад рэспубліканскім гледачом, выбралі б сапраўды вартае ўвагі. А то проста няёмка было глядзець на разгубленыя твары спевакоў і іншых выканаўцаў, калі падводзілі вынікі.

Гаворань, што таленты — не такая ўжо частая з'ява, іх трэба шукаць ды шукаць. Правільна! Паўтараю: шукаць! А пакуль не знайшлі, то трэба пачакаць з выступленнем.

**І. ПЯШКО,**
настаўнік.

Шчучынскі раён.

# САМАДЗЕЙНАГА МАСТАЦТВА

быліся творчыя конкурсы чытальнікаў, спевакоў, музыкантаў, танцораў. Конкурсы памаглі ўзбагаціць рэпертуар самадзейных артыстаў, паказалі іх творчы рост.

З КОЖНЫМ годам расце і сталее самы масавы жанр самадзейнага мастацтва рэспублікі—харавы, — гаворыць дакладчык, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, дацэнт кансерваторыі М. Маслаў.— Ад прымітыўнага двухгалосага спявання многія калектывы прыйшлі да шматгалосся, ад невялікіх харавых гурткоў—да масавых калектываў. Спяванне без суправаджэння ўкаранілася не толькі ў акадэмічных хорах, але і некаторых народных. Радуе стабільнасць многіх самадзейных хораў. Добра заявілі сябе многія народныя хоры, ансамблі песні і танца.

Плённы ўплыў на харавую самадзейнасць аказалі кваліфікаваныя кадры кіраўнікоў. У самадзейнасці зараз працуюць такія вопытныя спецыялісты, як У. Башко, К. Паплаўскі, А. Чопчыц, Д. Рулінскі, М. Ільічоў, М. Шошчыц, І. Кліёнскі, І. Сушко і многія іншыя. Добра праявілі сябе маладыя хормайстры М. Дрынеўскі, Ю. Гразноў, І. Вінаградава, А. Нікіціна, С. Дробыш, А. Шунтаў, А. Пыжык, В. Балаханаў.

М. Маслаў прааналізаваў дзейнасць многіх народных калектываў, якія сваім высокім майстэрствам заваявалі папулярнасць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

У рэспубліцы працуюць 3540 харавых калектываў. Сельскіх хораў у нас больш трох тысяч. Флагманамі харавога самадзейнага мастацтва на вёсцы даўно ўжо сталі Азершчынскі, Падлескі, Варатынскі, Лявонавіцкі, Натальеўскі, Казловіцкі, Прыбыткаўскі народныя хоры, Ланскі мужчынскі хор, Дзяляціцкая і Лебедзеўская народныя харавыя капэлы. Спіс гэты, вядома, можна прадоўжыць.

І ўсё ж развіццё харавой самадзейнасці на вёсцы патрабуе сёння пільнай увагі. Многія хоры працуюць нерэгулярна, ад агляду да агляду, рэдка выступаюць з канцэртамі.

Безумоўна, не хапае пакуль што на вёсцы кваліфікаваных кіраўнікоў. Добрага хормайстра нялёгка знайсці нават у раённым цэнтры. Але вядома і другое: сёння ў кожным раёне ёсць музычная школа, шмат кваліфікаваных выкладчыкаў спеваў у агульнаадукацыйных школах: у клубных установах працуюць выпускнікі культасветвучылішчаў, якія таксама здольны кіраваць хорамі. Калі ашчадна выкарыстаць нават гэтыя магчымасці, то ў кожным раённым доме культуры і ў шмат якіх калгасах і саўгасах можна мець добрыя харавыя калектывы.

На Брэстчыне ўвага творчых работнікаў сёння скіравана на дапамогу сельскай самадзейнасці. Аб гэтым гаварыў у сваім выступленні намеснік начальніка Брэсцкага абласнога ўпраўлення культуры М. Лукашук. Выкладчыкі музычнага вучылішча і музычных школ, тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі, а таксама рэжысёры народных тэатраў і кіраўнікі народных калектываў сталі добрымі шэфамі сельскіх артыстаў-аматараў. Каб ажывіць творчае жыццё на вёсцы, у гонар XXIV з'езда КПСС аб'яўлены агляд сельскіх самадзейных калектываў. Першы тур яго пачнецца ў снежні. Са справаздачнымі канцэртамі, як рапарт з'езду партыі, выступяць самадзейныя артысты ў калгасах, з якімі спаборнічаюць. Пазней адбудуцца раённыя і абласны агляды калектываў сельскай самадзейнасці.

Такая ўвага да сельскай самадзейнасці заслугоўвае ўхвалы.

Настаў час, калі і работу гарадскіх калектываў трэба ацэньваць не толькі за майстэрства і ўдала складзеную канцэртную праграму, але і за тое, як праяўляецца грамадзянская актыўнасць калектыву, прынамсі, як ён памагае сельскім артыстам.

У рэспубліцы часта праводзяцца агляды і конкурсы па жанрах самадзейнага мастацтва. Сельскім аматарам сцэны цяжка спаборнічаць з гарадскімі. Звычайна, у такіх няроўных творчых спаборніцтвах перамагаюць гарадскія калектывы, а, значыць, ім аддаецца перавага і на абласных і рэспубліканскіх конкурсах. А сяло? Вясковыя калектывы ў гэтых адказных выступленнях мелі магчымасць паказаць сябе толькі некалькімі канцэртнымі нумарамі. Падобная практыка не можа спрыяць развіццю самадзейнасці на вёсцы.

Самадзейнасць у нас багатая, разнастайная і не цяжка, вядома, скласці праграму абласнога канцэрта так, каб адчувалася ў ім і майстэрства, і натхненне, і яркія фарбы прыгожых сцэнічных касцюмаў. Кепска толькі, што такія канцэрты нярэдка—паказуха, за якой хаваюць сапраўднае становішча. Асабліва грашыць гэтым Магілёўшчына.

Імкненне ўразіць, здзівіць прывяло ўжо да таго, што нават заводская самадзейнасць пачала наракаць, што яе «забіваюць» прафесіяналы ў самадзейнасці. Маюцца на ўвазе калектывы музычных вучылішчаў рэспублікі, у якіх удзельнічаюць педагогі і студэнты—заўтрашнія музыканты і спевакі. Ці магчыма, напрыклад, вытрымаць самадзейнаму духавому аркестру Магілёўскага завода штучнага валакна (хоць ён адзін з лепшых у горадзе) спаборніцтва з сімфанічным аркестрам, ансамблямі скрыпачоў і віяланчэлістаў, аркестрам народных інструментаў Магілёўскага музычнага вучылішча? Наперад можна было сказаць, што пераможуць аркестры і ансамблі вучылішча. Так яно і атрымалася.

Ніхто не супраць творчых калектываў музычных вучылішчаў. Няхай яны жывуць, працуюць, выступаюць перад слухачамі, прапагандуюць лепшыя творы савецкіх кампазітараў, рускай і зарубежнай класікі, няхай радуюць сваім майстэрствам. Але яны, гэтыя калектывы, і па сваім профілі, і па творчых магчымасцях павінны спаборнічаць з аднароднымі калектывамі музычных вучылішчаў рэспублікі. Толькі пры гэтых умовах можна аб'ектыўна ацэньваць іх поспехі і дасягненні.

Нельга ісці на кампраміс і напалову, калі, скажам, нейкі калектыў для большага эфекту і рэзанансу ўзмацняецца за лік удзельнікаў хору вучылішча. Так было ў час выступлення Лебедзеўскай народнай харавой капэлы. Падстаўныя галасы студэнтаў Маладзечанскага вучылішча, вядома, узмацнілі гучанне хору. Але самадзейныя спевакі пасля такой «дапамогі» губляюць веру ў свае сілы і тую шчырасць і непасрэднасць выканання, якія ўласцівы самадзейнасці.

УВАГУ ўдзельнікаў творчай канферэнцыі прыцягнулі і іншыя пытанні далейшага развіцця самадзейнага мастацтва рэспублікі. З трывогай гаварылася аб неабходнасці сур'ёзна заняцца эстраднымі аркестрамі і ансамблямі, якіх у нас у рэспубліцы цяпер нямала (дакладчык—мастацкі кіраўнік эстраднага аркестра Беларускага радыё і тэлебачання Б. Райскі). Моладзь любіць эстраднае мастацтва і трэба, каб яно прывівала высокі густ, прапагандавала лепшыя творы.

Развіццю харэаграфічнага мастацтва ў рэспубліцы прысвяціў свой даклад балетмайстар Рэспубліканскага Дома народнай творчасці заслужаны дзеяч культуры БССР С. Грабеншчыкаў.

Здзіўленне выклікала сцвярджэнне С. Грабеншчыкава, быццам фальклорныя танцы на самадзейнай сцэне адраджаюць архаіку, што трэба іх абавязкова па-сучаснаму пераасэнсоўваць. Наадварот, трэба мець шмат чыста фальклорных калектываў, выяўляць і паказваць тыя танцы, якія сёння забыты, у якіх жыве самабытнасць, нацыянальны характар беларускага народа.

Шырока ставіліся на абмеркаванне і пытанні развіцця інструментальнага жанру самадзейнага мастацтва (дакладчык — загадчык кафедры народных інструментаў, дацэнт кансерваторыі Г. Жыхараў) і мастацкага чытання (дакладчык—кандыдат мастацтвазнаўства С. Пятровіч). Падкрэслівалася думка аб неабходнасці больш увагі аддаваць стварэнню і рабоце цымбальных і духавых аркестраў. Што датычыцца мастацкага чытання, то яно зрабіла пэўны крок наперад, але не набыло яшчэ ўсіх правоў грамадзянства нароўні з іншымі жанрамі самадзейнага мастацтва. Так павялося ўжо, што чытальнікі трапляюць у адказныя канцэрты часцей за ўсё выпадкова, калі рэжысёру спатрэбіцца «застаўка» паміж нумарамі. Каб стварыць неабходныя ўмовы для развіцця ўсіх жанраў самадзейнага мастацтва, каб не было ў нас пасынкаў, трэба наладжваць конкурсы чытальнікаў, інструменталістаў, танцавальных і харавых калектываў, асобна выдзеліўшы народныя калектывы. Значна ажывілі б работу нашых хораў святы песні. На Гомельшчыне такое свята самадзейнага мастацтва мяркуецца правесці ў 1971 годзе. На канферэнцыі выказвалася слушная прапанова — правесці фестываль фальклорнай песні і танца, які, безумоўна, падорыць нам нямала цікавага і новага.

Словам, шмат было слушных і цікавых прапаноў, накіраваных на тое, каб дастойна сустрэць XXIV з'езд нашай партыі, каб самадзейнае мастацтва радавала гледачоў новымі творчымі здабыткамі.

На канферэнцыі выступілі: намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін, сакратар Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў М. Дубкова, дырэктар Рэспубліканскага Дома народнай творчасці Г. Талчынская, загадчык сектара культурна-масавай работы ЦК ЛКСМБ Н. Крыжаноўская, мастацкі кіраўнік Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца «Нёман» А.Чопчыц, мастацкі кіраўнік народнай харавой капэлы Магілёўскага гарадскога Дома культуры У. Башко, дырэктары Гомельскага і Мінскага дамоў мастацкай самадзейнасці Э. Ярцова і Т. Курыла, балетмайстар танцавальнага калектыву Мінскага педінстытута Я. Карпаў, кіраўнік народнага ансамбля танца Магілёўскай швейнай фабрыкі А. Іваноў, загадчык культмасавага сектара Віцебскага абкома камсамола У. Рошчын і інш.

Цікавай была творчая сустрэча ўдзельнікаў канферэнцыі з кампазітарамі І. Лучанком, Ю. Семяняка м, М. Шнейдэрманам. Яны расказалі аб сваёй рабоце над новымі творамі, пра сувязі з самадзейнымі калектывамі. Спевакі А. Бокаў, Л. Златава, Н. Нікеева, Ю. Смірноў і В. Прышчапёнак выканалі новыя творы кампазітараў.

Удзельнікі творчай канферэнцыі наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», пабывалі на спектаклях мінскіх тэатраў і ў канцэртных залах сталіцы.

---

**Цэнтральны савет Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры глыбока смуткуе з выпадку смерці старшыні Савета ветэранаў вайны, члена Цэнтральнага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ВЯДЗЕНІЧАВА Ніла Рыгоравіча і выказвае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**




Мал. В. ТАРАСАВА.

Уладзімір
ДАМАШЭВІЧ

# БАТАЛЬЁН НА КАЛЕНЯХ

*РАЗДЗЕЛ З АПОВЕСЦІ*

**Пішу аповесць на матэрыяле з біяграфіі чалавека, які вельмі многа перажыў і пабачыў. Прозвішча яго крыху зменена. Але, як і мой герой, ён быў артылерыстам і прайшоў усю вайну ад пачатку да канца.**

**Прапаную ўвазе чытачоў штотыднёвіка раздзел з аповесці «Хроніка артылерыста».**

**Аўтар.**

НА ДРУГОЙ ЛІНІІ абароны немцы заселі моцна, думалі, няйначай, тут і перазімаваць: зямлянкі і бліндажы былі ўсланы і абвешаны дыванамі, на нарах—поўна падушак і казацкіх бурак, што служылі, няйначай, за коўдры. Нават там, дзе ў траншэях стаялі назіральнікі, памост пад нагамі быў чым-небудзь засланы, каб не так настывалі ногі. Немцы любілі камфорт! Але ён нічуць ім не памог, яны кінулі яго—тыя, што засталіся жывыя—і пабеглі ў голы, неабжыты, заснежаны стэп, шукаючы ратунку, а хутчэй —смерці.

Праз двое сутак пасля пачатку наступу стала вядома, што буйное злучэнне праціўніка апынулася ў кальцы. Трэба было яго ліквідаваць.

Была марозная золкая раніца. Клімёнак ужо двое сутак не спаў, і як толькі сеў у машыну, як толькі цёплае паветра ад матора стала саграваць яго ногі і ўсё цела, адразу стаў драмаць. Паколвала нешта ў галаве. Мо яшчэ ўсё ад той кантузіі, калі ён стукнуўся галавою аб падлогу. Дактарам ён не скардзіўся, сказаў, што ўсё прайшло. Сапраўды, ён акрыяў хутка, нават тады ж адразу, як прыйшоў да памяці. На ногі яго ўзняла злосць. Аказалася, што прамое пападанне было не ў іх НП, а ў склад мін, які побач з НП зрабілі сапёры. Найбольш дасталося тады ад Клімёнка ад'ютанту Андрэеву, які ведаў пра міны, але нічога нікому не сказаў. Перапалоханы ад'ютант тут жа прапанаваў мяняць месца НП, але Клімёнка гэта яшчэ больш раззлавала: навошта мяняць, калі ўсё ўжо зроблена? Калі міны ўзляцелі, калі на валаску застаўся іх бліндаж? Калі нават сапсавалася радыёстанцыя?

Ад'ютанту тады дасталося добра. Цяпер Клімёнку стала нават трохі яго шкада, падмывала хвілінамі павярнуцца назад, дзе ён сядзеў побач з сувязістам, і сказаць: «Даруй, старшы лейтэнант, я пагарачыўся».

Паступова сон ад Клімёнка адкаснуўся. Цяпер ён болей сачыў за дарогай. Дарога ўжо даўно не спала. Ехалі кухні на прычэпе ў грузавікоў. Ехалі крытыя брызентам машыны. Ехалі гружаныя белымі скрынямі «шэўралеты» і «форды». Сядытады ў кузавах відаць былі байцы з апушчанымі навушнікамі шапак, з настаўленымі каўнярамі шынялёў. Прамчаў, просячы дарогі, недарэчны ў такой сітуацыі цяжкі пад'ёмны кран, пагойдваючы доўгай стралой. Везлі свежыя белыя дошкі, бярвенні. Абозы на конях цягнулі ўсю армейскую маёмасць.

Усё гэта, не раз бачанае, мала цікавіла Клімёнка. Хацелася нечага новага...

Яны ледзь не стукнуліся буферам у пярэдні грузавік. «Віліс» заскрыпеў тармазамі і стаў. Спачатку нельга было разабраць, што там здарылася.

Растаропны Тампчакоўскі, углядаючыся ў лабавое шкло, сказаў:

— Ідзе калона... Ці не фрыцаў гоняць... Затапілі ўсю дарогу.

Пярэднія машыны збочвалі, звярнуў і Тампчакоўскі. Снег тут быў неглыбокі, увесь на слядах, машына параўнялася з галавой калоны. Уперадзе ехаў на шэрым заінелым кані бравы афіцэр у кубанцы.

— Спыніся, — сказаў Клімёнак шафёру.

Машына тарганулася і стала. Клімёнак, а за ім ад'ютант, шафёр і сувязіст выйшлі да дарогі. Такое відовішча ім усім даводзілася бачыць першы раз. Акружаная негустым канвоем конных казакоў, як скінуць вокам, па дарозе ішла-калыхалася доўгая калона немцаў. Наперадзе ішлі афіцэры, з усіх сіл стараючыся трымацца з гонарам, але гэта ўдавалася не кожнаму. Такіх, што ішлі, як на парадзе, было нямнога. У большасці галовы былі апушчаны, вочы пазіралі долу, рукі глыбока засунуты ў кішэні або ў рукавы, спіны ссутуленыя. Толькі ногі, абутыя ў бог ведае які абутак, якколвек прыстасаваны да халоднай зімы, пераступалі не вяла і абыякава, як гэтага можна было чакаць, а рэзка, хутка, з подбегам, нібы яны ступалі па тонкім лёдзе. І яшчэ што кідалася ў вочы: палонныя нібы адмахваліся ад нябачных мух ці аваднёў. То там, то тут па калоне ўзляталі ўгору рукі, голыя або ў падраных рукавіцах ці пальчатках, хапаліся то за нос, то за вушы, церлі пабялелыя шчокі. Некаторыя, прыгнуўшыся, на хаду адціралі калені ці сцёгны — асабліва тыя, што былі без шынялёў, у адных мундзірах або ў кароткіх куртках, узятых бог ведае дзе і ў каго, зусім не вайсковага крою. І, як ні дзіўна, пры ўсёй стракатасці іх вопраткі, асабліва галаўных убораў, насунутых на вушы і на самыя вочы, рук, засунутых у рукавы шынялёў і куртак, — у салдатаў быў бадзёры выгляд, яны пазіралі на купку савецкіх афіцэраў і байцоў і нават пасміхаліся. Яны, няйначай, радаваліся, што вайна для іх скончылася, хоць і палонам, што ўсё ж яны засталіся жывыя.

Падпалкоўнік Клімёнак глядзеў на гэтую разнашэрстную калону і ў грудзях у яго абудзіўся мінулы боль. Успамінаўся яму сорак першы, дарогі Беларусі, дарогі Смаленшчыны, на якіх вось такімі, а то і большымі калонамі ішлі нашы палонныя, ішлі пад канвоем пыхлівых нямецкіх ваяк, падалі ад стомы, ад ран і ад голаду, паміралі ад куль. Не раз даводзілася яму, седзячы дзе-небудзь у жыце або ў гушчары пры дарозе, бачыць гэты жудасны малюнак, які будзе стаяць у яго вачах да самай смерці. А ён, Клімёнак, нібы воляю лёсу знарок дажыў вось да гэтых шчаслівых дзён, каб ад імя тых, што загінулі, іх вачыма глянуць сёння на сваіх ворагаў. Вось яны, пыхлівыя заваёўнікі, ідуць з апушчанымі галовамі пад канвоем нашых казакоў.

— Адваяваліся, гады! — сярдзіта сплюнуў Тампчакоўскі і першы пайшоў да машыны.

Калона канчалася. У хвасце яе пляліся самыя слабыя салдаты. Апошні, кульгаючы, дыбаў высокі худы немец у кароткім парваным шынялі. Галава салдата, як хусткай, была накрыта шэраю байкаваю коўдрай. Побач з ім, скурчыўшыся, падскокваючы як на прысаку, трухаў невысокі таўсматы немец у адным мундзіры, з пілоткай, насунутай на вушы, з рукамі ў кішэнях шырокіх штаноў. Немцы ішлі кожны сам па сабе, са сваім горам. Да чужога ім не было клопату.

Яны зноў селі ў машыну і паехалі: па той самай дарозе, дзе нядаўна маршыравалі палонныя немцы. Дарога цяпер была ўплясканая, як ток, чорная, перамешаная з зямлёй. «Так чарнее зямля пад нагамі чужынцаў, — падумаў Клімёнак.— Чужы бот пакідае пасля сябе чорныя сляды». Ён глянуў на сваіх спадарожнікаў. Яны, відаць, па-рознаму перажывалі гэты момант. Рухавы і заўсёды вясёлы Тампчакоўскі цяпер яшчэ пажвавеў, бліскаў вачыма на Клімёнка, флегматычны ад'ютант Андрэеў стаў яшчэ болей задуманы, а непрыкметны ціхі старшына-радыст, які на здзіўленне ўсіх прыскакаў да машыны на адной назе, цяпер усё варушыўся на месцы, пакашліваў, нібы хацеў што сказаць, ды не асмельваўся першы.

— Ну, што скажаце, хлопцы? — спытаў Клімёнак, павярнуўшыся да сваіх спадарожнікаў.— Спадабаліся вам немцы?

Усіх падкінула на выбоіне, Тампчакоўскі вылаяўся праз зубы, а ўголас сказаў:

— Вясёлая карціна, таварыш падпалкоўнік. Але я зрабіў бы яшчэ весялейшую.

— Як гэта?

— Вельмі проста! Распрануў бы іх нагола ды пусціў галопам па гэтай дарозе. Вось была б ім памятка аб Расіі. А то ідуць, скаляць зубы, труць насы. А як жа! Яны нашых сабакамі травілі...

Тампчакоўскага падтрымалі, ніхто не сказаў, што так было б несправядліва. Але Клімёнак адчуваў, што гэтыя хлопцы, якія так сярдзіта і нават жорстка гаварылі пра палонных, каб дайшло да справы, ніколі не здзекаваліся б з немцаў, як гэта рабілі тыя з нашымі людзьмі.

Нізка над дарогай праляцелі самалёты з зоркамі на крылах. Усе яшчэ болей ажывіліся. Нейкая нябачная сіла неўпрыкмет уваходзіла ў людзей, яны рабіліся ўпэўненыя, смялей пачыналі пазіраць на свет і ў сваё заўтра. Галоўнае, што людзі адчулі: вораг не такі ўжо і моцны, як яго лічылі спачатку, а мы самі не такія ўжо слабыя, як былі паўтара года назад.

Сваіх артылерыстаў Клімёнак знайшоў недзе праз паўгадзіны пасля сустрэчы з палоннымі немцамі. Разведка паведамляла, што акружаная групоўка не збіраецца здавацца.

Нашы перадавыя мотастралковыя часці ўчора раніцай трапілі пад моцны артылерыйскі агонь праціўніка і вымушаны былі спыніцца, заняць баявыя парадкі. Якраз тут, разам з пяхотай, былі і артылерысты Клімёнка. Па загадзе сваіх камандзіраў палкі пачыналі займаць пазіцыі, рыхтавацца да апошняга штурму недабітага ворага.

Адчувалася, што праціўнік зусім блізка. Сядытады паблізу разрываўся варожы снарад ці міна. І над стэпам у тым баку слаўся нізкі, як туман, дым. Гэта немцы грэліся ў голым стэпе, палілі вогнішчы, збіраючы на агонь усё, што трапіць пад руку. Пра маскіроўку яны ўжо не думалі.

Недзе пад абед марозны туман рассеяўся, і ў паветры паказаліся нашы штурмавікі. Яны нізка праімчаліся над размяшчэннем сваіх войск, і хутка над нямецкімі пазіцыямі загрымелі глухія выбухі. Штурмавікі добра былі відаць: яны то ўзнімаліся, то зноў давалі нырца, б'ючы са сваіх аўтаматычных гармат.

Клімёнак з камандзірам артылерыйскай часці 76-і міліметровых гармат маёрам Зямлянскім стаялі на часовым НП, любуючыся, як штурмавікі малоцяць нямецкія пазіцыі.

— Прыемна глядзець на такую работку збоку, — гаварыў высокі хударлявы Зямлянскі. — І зусім іншая рэч, калі самалёты вісяць над табою.

Клімёнак, апусціўшы бінокль, кіўнуў:

— Так, мы нацярпеліся, хай адчуюць гэта на сваёй шкуры і фрыцы.

Яны стаялі доўга, у Клімёнка пачыналі ўжо мерзнуць ногі ў валёнках. Ужо хацелі ісці ў зямлянку, як раптам баец-назіральнік закрычаў:

— Таварыш маёр, немцы! Ідуць на нашы траншэі!

Клімёнак і Зямлянскі павярнуліся ў той бок, куды паказваў баец. На белым снезе выразна віднелася чорная жывая хваля людзей, якія густа, натоўпам, адзін пра другім, расцягнуўшыся на некалькі сот метраў па фронце, кіравалі на яшчэ як след не ўмацаваныя пазіцыі нашай пяхоты.

— Адкрываць агонь? — нервова павярнуўся да Клімёнка маёр Зямлянскі. — Што ж там пяхота? Чаго яны чакаюць?

— Стой! — Клімёнак стукнуў кулаком па брустверы. — Бачыш белы сцяг? Яны ідуць здавацца!

Першы, не адрываючыся ад густое масы салдат, ішоў афіцэр, трымаючы ў правай руцэ невялікае белае палотнішча, якое на фоне снегу прападала, а трапіўшы на шэры, зямлісты фон з шынялёў, адразу рабілася прыкметным.

— Ну, фрыцам прыпякло! — выгукнуў Зямлянскі. — Пайшлі прымаць капітуляцыю! — Ён па-панібрацку стукнуў Клімёнка па плячы. Другі раз маёр Зямлянскі мо не дазволіў бы сабе такога панібрацтва, а Клімёнак мог абразіцца і вылаяць за парушэнне субардынацыі, але цяпер, у такую хвіліну, яму было не да дробнага самалюбства. Яны абодва па прыступках у траншэі выскачылі на бруствер і, коўзаючыся валёнкамі па сыпкім марозным снезе, рушылі насустрач немцам.

Клімёнак і Зямлянскі ішлі побач. Яны цяжка дыхалі ад хуткай хады. Клімёнку стала горача і ён расшпіліў верхні гузік гімнасцёркі. Страху ў яго не было, была нейкая нечуваная адвага і рашучасць, калі чалавек перастае думаць пра сябе як пра жывога, з плоці і крыві, а як пра нешта духоўнае, што нельга забіць і знішчыць, што не падуладна смерці, не падпарадкоўваецца тым законам, якія маюць сілу над звычайнымі людзьмі ў звычайных абставінах. Гэта было тое неакрэсленае, яшчэ не даследаванае нікім пачуццё акрыленасці, калі чалавек здольны на ўсё самае цяжкае і самае вялікае.

Немцы ішлі разгорнутым строем, густа, у некалькі шарэнгаў, збіўшыся болей у цэнтры, агібаючы, ахопліваючы свайго камандзіра флангамі і ўтвараючы нешта падобнае да падковы ці да паўмесяца, ішлі з карабінамі за плячыма і з аўтаматамі на жыватах, ішлі, як у псіхічную атаку.

Нельга было адгадаць, што зробяць яны вось зараз, праз хвіліну, праз дзве. Ад іх, памятаючы лёс нядаўна забітых нашых парламенцёраў, Клімёнак быў гатовы чакаць усяго. Яны з Зямлянскім ужо мінулі траншэю пехацінцаў, якія, выставіўшы на брустверы вінтоўкі і аўтаматы, нервова чакалі, што будзе далей.

Раптам нямецкі афіцэр, што ішоў наперадзе ўсіх з белым сцягам, павярнуўся назад і нешта крыкнуў — адрывіста і рэзка.

«Вось яно, пачынаецца, — кальнула ў сэрца Клімёнку. — Пастка...». Ён глянуў на Зямлянскага, як бы шукаючы ў яго адказу, што ж рабіць. Твар Зямлянскага стаў бледны, вочы вузенькімі шчылінамі глядзелі перад сабою, а правая рука нервовым рухам адшпільвала кабур пісталета. У такую хвіліну гэты жэст здаваўся Клімёнку па меншай меры смешным. Дзівак маёр! Тут сама мала батальён, чалавек пяцьсот, а ён хоча настрашыць іх пісталетам! Клімёнак, паволі халадзеючы сэрцам, ішоў далей. Што будзе! Іх ужо цяпер нельга спыніць. Яны, як камень з гары, павінны былі дакаціцца да самага нізу, і яны ўдвух — ніякая не перашкода для іх, яны

*лай восенню ў кастрычніку месяцы, чысла не памятаю. Доўга мыў машыну ў двары. Я хварэла ў той час, з ложка не ўставала...»*

●

— З білетамі яны малайцы,—Лабанаў гаварыў, аднак, без асаблівага энтузіязму.—Але гэты прамежак, з 14 па 22 кастрычніка для нас зараз усё роўна, што нічога. У іншай сітуацыі такі фінал лічыўся б бліскучым: знайсці сем леташніх дзён. Нам жа патрэбен толькі адзін дзень. Толькі адзін—17 кастрычніка. І вось аб чым я думаю, дарагі Віктар Сцяпанавіч. Ці не вярнуцца нам да архіваў Старацярушкінскага паштовага аддзялення?

— Насуперак тэрмінам хавання арыгіналаў і квітанцый? Правяраў жа Малахаў: не больш як тры месяцы захоўваюцца арыгіналы тэлеграм.

— Смешна, вядома: ахоўнікі законаў і раптам—насуперак законам! Але калі б законы заўсёды і ўсюды захоўваліся, мы б не патрэбны былі грамадству. Затое, калі знойдзецца той паштовы парушальнік, на якога я разлічваю... Між іншым, надзея ёсць. Канечне, у сталіцы, на галоўным паштамце, тры законныя месяцы захоўваюцца, хоць бы таму, што папер там—гара. А скажам, на якім-небудзь сельскім вузле або ў аддзяленні сувязі...

— Зразумела, Андрэй Іванавіч. Ты хочаш сказаць, чаму б такому аддзяленню не аказацца ў Цярушках.

— Вось і папрацуем. Прызнацца, гэта справа з мяне ўжо ўсю душу выматала. А тут вось. яшчэ пісьмы ўсялякія пішуць—сваяк за сваяком—і наша крымінальная справа пухне з дня ў дзень.

— Мне ўжо пракурор замест «добры дзень» гаворыць: «Ну, як там справа Карасёвай?» Вось так... Каго пашлём у Цярушкі?

— Малахава. Ён ужо быў там.

●

Загадчыца аддзялення ў Цярушках сустрэла капітана, як старога знаёмага.

— Усё-такі збіраецеся шукаць?

— Збіраюся.

— Ну што ж, вам відней. Толькі памятайце: тры месяцы...

— Прабачце, вы колькі працуеце тут?

— Паўтара гады.

— І колькі разоў за гэты час знішчаліся дакументы?

— Разы два...

— Бачыце? Замест шасці разоў—два. Так што ўсё можа здарыцца.

— Ну што ж, ідзём. Вы не ўлічылі толькі, што і за два разы можна знішчыць тое, што трэба за шэсць.

Малахаў кіўнуў: можна, але...

Стэлаж ад падлогі да столі ледзь змяшчаў кіпы папер: квітанцыі, бланкі, пераводы, тэлеграмы—пыльныя, скамячаныя, перавязаныя тоўстым шпагатам і ссыпаныя проста навалам у скрынкі і на паліцы.

— Аддзяленне ў вас з гулькін нос, а папер...—капітан крутнуў галавой.

— Дык гэта ж за год. Некаторыя трэба хаваць і тры гады. Сярод іх трапляюцца і трохмесячныя.

— Вы іх складаеце ў парадку паступлення?

— Бачыце...—збянтэжылася дзяўчына.

— Бачу. Трэба спраўляцца, а то жаніхі...

— Годзе ўжо вам з жаніхамі, — агрызнулася яна.

— Годзе — дык годзе.

— Усё. Больш няма.

— Ну, тады не буду вам перашкаджаць.

Яна пайшла да свайго адпаліраванага сотнямі локцяў «прылаўка», а ён узяўся за дакументы.

Адкуль толькі ні слалі ў маленькую вёсачку Цярушкі тэлеграмы, пераводы і пасылкі! І куды толькі адсюль ні адпраўляліся яны! У Маскву, Ленінград, Бухту Прывіду, Асуан!..

...К канцу другога дня работы капітан узяў у рукі шэры бланк тэлеграмы.

«...Машко Дар'і...» У першае імгненне не паверыў вачам: «Мінск, Фабрычная, Машко Дар'і».

«Прыязджай сама або прышлі Сашу. Моцна захварэла. Мама».

Паштовы штэмпель захаваў выразныя лічбы: 17.10. Вось і ўсё. 17 кастрычніка. Усё-такі семнаццатага...

●

— Грамадзянін падпалкоўнік, у мяне сёння начное дзяжурства, а тут выклік. Мне выспацца трэба: я хворых важу. Я ж не супраць, але ж трэба ведаць меру.

— Добры дзень, грамадзянін Шорахаў. Вы маеце рацыю: гэтага мы не ўлічылі. Работа ў вас складаная. Абяцаю ў наступны раз выклікаць вас у нерабочы дзень. Між іншым, я вас затрымаю ненадоўга. Справа вось у чым. Забітая жанчына везла з сабой чамадан вінаграду. Вось мы і засумняваліся... Чытайце. Гэта запіс гутаркі следчага пракуратуры з вашай падчаркай Валяй.

Шорахаў прачытаў і абхапіў рукамі галаву. Далей ён так і гаварыў, не падымаючы твару.

— Гэта ж жахліва... Усе супраць мяне... Я больш не магу... Вінаград! Я купіў яго, купіў! У латку на вуліцы... ля магазіна «Лакомка». Захацеў зрабіць прыемнае жонцы і дзяўчынцы. А яна—вось што...

— Супакойцеся, Шорахаў. Мы хочам зняць з вас падазрэнне. А Валя—што ж, хіба яна нахлусіла на вас? Ну, купілі і добра... Давайце пропуск. Можаце ісці.

— Што ж выходзіць? Выходзіць, я хлушу? Выходзіць я вінаваты? Вы здзекуецеся з мяне!

— Не нервуйцеся, Шорахаў. Я ж сказаў: можаце ісці. Ідзіце і падумайце.

Шорахаў павольна пайшоў да дзвярэй.

Ідзі, ідзі і думай. Не спі начамі. Думай, шукай выйсце... Зараз ты рванешся ў Цярушкі—пакліча чамадан, у якім быў вінаград Карасёвай. Але чамадана ў хляве даўно няма. «Дзе ён?»—ашалеўшы, крыкнеш ты цешчы.

— Купіў праездкы адзін: яблыкі не было ў чым везці. Не таргуючыся, пяць рублёў даў за гэты хлам. А інструмент я ў кошык паклала, цэлы ён...

А тую пяцёрку Пятрухіну спісалі, як службовыя выдаткі.. Чамадан хутка, зусім хутка «стрэліць», калі ты здолееш дацягнуць да наступнага допыту. Там жа загаворыць і даведка з «Мінплодагароднінагандлю».

●

...Допыт працягваўся толькі некалькі хвілін. Спачатку перад Шорахавым паклалі ліст з паказаннямі сваячкі:

*«...У снежні ён прапанаваў мне купіць чорныя жаночыя пальчаткі і белую шарсцяную шапачку. Я адмовілася і потым бачыла іх у Валі...»*

Потым пазнаёмілі з паказаннямі Валі:

*«...Апрача пальчатак, ён даў мне яшчэ белую шапачку. Толькі потым адабраў. Больш гэтых рэчаў у нас у доме я не бачыла».*

Наўмысна, роўным голасам, ледзь стрымліваючыся, Шорахаў тлумачыць:

— Гэтыя рэчы атрымаў замест грошай за тое, што падвёз нейкіх пасажыраў.

— Куды зніклі пальчаткі і шапачка?

— Не памятаю.

— Ну што ж, не памятаеце і не трэба. Вось паказанні мужа забітай і яе сваякоў. У загінуўшай таксама былі чорныя пальчаткі і белая вязаная шапачка. Супадзенне? Можа быць. Ды вось яшчэ што, грамадзянін Шорахаў, пазнаёмцеся з даведкай «Мінплодагароднінагандлю».

*«...У перыяд з 15 па 20 кастрычніка ў гандлёвую сетку г. Мінска вінаград не завозіўся і не прадаваўся...»*

— Так што вінаградам, купленым у латку, вы не маглі напоўніць той чамадан.

— Можа, я забыў...

— Можа.

— Ці памятаеце вы, Шорахаў, як выглядаў чамадан, у якім быў вінаград?

— Памятаю.

— Ці не гэты?

Шаг здымае з чамадана, які ляжыць на стале ў кутку кабінета, пакрывала.

— Здаецца, ён, але не ўпэўнены...

«Ці не часта ты паўтараеш: не памятаю, здаецца, можа быць?»

— Што ж, унясём яснасць: чамадан узяты з хлява ў Старых Цярушках. Вось паказанні мужа забітай, яе бацькоў. Яны апазналі чамадан.

— Усе супраць мяне!—Шорахаў ускочыў з крэсла.—Усе! Чаму ж вы мяне не арыштуеце?

— Што вы, Шорахаў, хіба з-за такіх драбніц арыштоўваюць людзей? Мы спачатку ўсё высветлім, праверым, яшчэ раз праверым і яшчэ.

●

«Няўжо і зараз не ўцячэ? А блізкі ўжо да істэрыкі. Усе гэтыя выкручванні—«не памятаю», «здаецца» — толькі зацішак перад бурай...»

— Мікалай Ільіч, нагадваю: прасачыце, каб з яго вачэй не спускалі. Людзей і машыны трымаць у пастаяннай гатоўнасці.

— Даўно ўсё ў гатоўнасці, з першага допыту.

— Не ўпусціце моманту.

— Нічога, не ўпусцім, Віктар Сцяпанавіч.

Пратасеня студэнтам-практыкантам працуе на «Хуткай дапамозе» ўжо цэлы тыдзень.

— Горад закрыць. Фатаграфіі ў паставых ёсць?

— Ёсць. Не хвалюйцеся, усё гатова.

— Ну што ж, будзем чакаць.

— Калі наступны допыт?

— Заўтра. Трэба дацiснуць, не даць апамятацца.

●

— Дакладвае Пратасеня! Шукайце «Волгу» 12—73! Паўтараю: 12—73! Шорахаў змяніў нумар!

— Вось яно што! 12—73? Ага. На Лагойскім... набліжаецца да кальцавой шашы... «Беркут-7», «Беркут-7». Загадваю: перакрыць перакрыжаванне кальцавой дарогі і Лагойскай шашы. Затрымаць аўтамашыну «Волга»—фургон «Хуткай дапамогі», нумар...

— Я «Беркут-7». Вас зразумеў. Выконваю.

●

Шорахаў убачыў, як светлая «Волга», прапусціўшы гружаную «Татру», выскачыла на шашу і спынілася ўпоперак праезджай часткі. У яго анямелі рукі. Канец! Убачыў, як з машыны выйшаў чалавек у міліцэйскай форме, падняў руку. Колькі разоў Шорахаў спыняў свой «Масквіч» па такім жэсце. Ён сам шукаў «галасуючых». Але цяпер... Цяпер гэты жэст азначаў яго, Шорахава, канец. Хутка ж яны напалі на след... І нумар не выратаваў.

Ліхаманкава думаючы, што ж рабіць, ён міжволі збавіў хуткасць. Збіць таго, на дарозе? Можна пашкодзіць машыну і тады—не ўцячы. У іх радыёстанцыя. Зараз сюды спяшаюцца іншыя машыны. Не, не, трэба, чаго б гэта ні каштавала, прарвацца!

Значыць—страляць?! У таго, што стаіць на шляху. Не забіць—параніць. Тыя, у машыне, яго не кінуць—выйграю некалькі мінут.

Пад'язджаючы да чалавека ў міліцэйскай форме, Шорахаў яшчэ збавіў хуткасць і дастаў пісталет... Чалавек стаяў нерухома, спакойна, чакаючы набліжэння «Волгі» з чырвоным крыжам на ліхтары.

Стрэлаў ён не пачуў. Два жахлівыя ўдары адкінулі яго на пыльную дарогу.

Пакуль шафёр і маладзенькі лейтэнант уцягвалі параненага ў машыну, «Волга» Шорахава ператварылася ў маленькую кропку на гарызонце.

— Дакладвае «Беркут-7», дакладвае «Беркут-7»... Старшы лейтэнант Грамыка паранены двума стрэламі з пісталета вадзіцелем машыны 12—73. Праследуем. Як зразумелі? Прыём...

— «Беркут-7», «Беркут-7», параненага неадкладна адпраўце ў шпіталь сустрэчнай машынай. Паведамляйце аб руху 12—73! Толькі праследуйце! «Браць» не трэба. Нашы машыны на падыходзе. Выконвайце.

Шаг быў бледны.

— Дзяжурны! Усіх на Лагойскую шашу. Папярэдзьце пасты па лініі. Я выязджаю з групай неадкладна.

Ён збег уніз. Урач і аператыўнікі ўжо чакалі яго ў машыне.

— Сірэну, — загадаў Шаг шафёру.—Вельмі хутка на Лагойск.—Ён уключыў рацыю.—«Беркут-7», «Беркут-7»! Далажыце, што ў вас?

— Я «Беркут-7». Паранены адпраўлены ў бальніцу. Праследуем...

●

...Шорахаў лічыўся шафёрам першакласным. Ён умеў выціскаць з матора ўсё. Вецер за абшыўкай ужо не гудзеў, а свісцеў. Стрэлка спідометра дробна ўздрыгвала.

Да Лагойска кіламетраў дзесяць. Шорахаў азірнуўся. Ззаду маячылі дзве машыны. «Адна тая—з перакрыжавання, а другая? Можа спадарожная? Дзе там! На такой хуткасці?.. Маторы ў іх мацнейшыя. Дастануць! Трэба на спуску—пакуль ім не відаць—на прасёлак, у лес. Інакш—канец».

У самай нізіне спуску, скінуўшы загадзя хуткасць, каб не пакінуць слядоў, Шорахаў звярнуў улева, на прасёлак і шаша тут жа схавалася за частаколам сосна́ў. Праехаўшы разбітай лясной дарогай каля двух кіламетраў, «Хуткая» яшчэ раз звярнула—прама ў лес, па бездараж. Убачыўшы густы арэшнік, Шорахаў загнаў машыну туды і хуткім крокам накіраваўся назад, да шашы: «Там шукаць не будуць... Эх, не ўдалося адарвацца... Цяпер трэба чакаць ночы... І як жа яны так хутка хапіліся? Нічога—не возьмеце, уцяку! Не ўдасца—дык пакладу ўсіх, на каго хопіць патронаў».

— «Беркут-7», «Беркут-7». Ідзіце па шашы да пункту найбольшага агляду. Я зварочваю на прасёлачную. Калі не ўбачыце, вяртайцеся да мяне.

— ...Цяпер не спяшайся, — кінуў Шаг шафёру.—Усім падрыхтаваць зброю. Глядзець уважліва: можа з'езд, сляды...

Лес хутка кончыўся. Далёка раскінуўся велізарны луг. «Не, тут бы ён не праскочыў. Недзе ў лесе».

— Давай назад! Павольна!

На зваротным шляху яны сустрэліся з «Беркутам», які на вялікай хуткасці выляцеў з-за павароту.

Завылі тармазы, і з машыны выскачыў лейтэнант увесь у крыві. Убачыўшы ўстрывожаны позірк Шага, ён паспешна растлумачыў:

— Кроў не мая—Грамыкі...

І тут жа далажыў:

— Таварыш падпалкоўнік, на шашы яго няма, напэўна звярнуў.

— Што ж, пашукаем слядоў. Не па паветры ж ён паляцеў.

Расчыніўшы дзверцы машыны, Шаг загадаў шафёру:

— Перадай групам, якія едуць сюды, каб спяшаліся. Сабаку—адразу да нас.

След яны знайшлі метраў за васемсот, унізе, паміж двума пагоркамі. Шаг дастаў карту, паказаў лейтэнанту, які кавалак лесу трэба блакіраваць, і загадаў перадаць загад тым, што прыбылі.

— А вы?

— Я—у невялікую разведку.

— У яго пісталет, таварыш падпалкоўнік.

— У мяне таксама!—усміхнуўся Шаг.

...Шорахаў чуў шум матораў—спачатку аднаго, потым другога.

Намацалі... Хутчэй адсюль. Пакуль іх мала—трэба паспець!

Ён пабег. Але тут жа пачуў адразу некалькі машын: «Не ўцячы... Трэба чакаць цемры...».

Прасека вывела Шорахава на паляну з некалькімі дрэвамі ў цэнтры. Унізе дрэвы зараслі густым хмызняком. Кучы сухога галля, раскіданыя па паляне, дапаўнялі пейзаж. «Тут і перачакаю...—рашыў Шорахаў. — З усіх бакоў відаць будзе, калі што».

«Волгу» з чырвоным крыжам Шаг знайшоў хутка. Яна стаяла ў кустах. Віктар Сцяпанавіч абышоў машыну: пашкоджана крыло, разбітыя фары. «Спяшаўся ўцячы далей... Баіцца смерці, гад. Вельмі баіцца... Як жа я асколкі ад фары не заўважыў—ішоў жа па следзе? З лесу ты ўжо не выйдзеш. Але ў цябе ёсць зброя. І той, хто першы выйдзе на цябе, атрымае кулю — ты абавязкова будзеш страляць. Першым можа аказацца нехта з міліцыянераў, што бягуць зараз сюды.

Не, мілы чалавек,—твая задума,—табе і быць першым. І ўжо ў цябе забойца не зможа не стрэліць. Усе допыты ўспомніць, усю нянавісць укладзе ў стрэл. Што ж стрэлам ён і выявіць сябе...».

Асцярожна хаваючыся за дрэвамі, Шаг выглянуў за пагорак і ўбачыў вялікую паляну з дрэвамі пасярэдзіне і вялікімі купамі хворасту.

«Ён ішоў сюды, як і я, і, значыць, павінен чакаць нас адсюль. Вось мы і паспрабуем падысці з другога боку. Усё ж лішні шанец...».

Шаг набліжаўся да дрэў у цэнтры паляны. Назіраючы з боку, можна было думаць, што ён зусім не бачыць тых дрэў. Але Шаг ні на секунду не выпускаў іх з віду: ад гэтага залежыла зараз яго жыццё. Левая яго рука сціскала чатыры шышкі, да пня заставалася метраў дваццаць, калі ледзь улоўны рух падаўся ў кустах. Зрабіўшы моцны скачок наперад, Шаг рэзка ўпаў, і ў момант падзення адчуў, як нешта рванула яго за левае плячо, і тут жа пачуў стрэл.

Зірнуў на плячо: шынель быў прабіты куляй пад самым пагонам.

«Біў у сэрца... Ледзь празяваў бы, не прыгнуўся—і памінкі спраўляй. А разлік правільны: варухнуўся ён якраз таму, што мяняў становішча—не чакаў з гэтага боку...»

Дзі-інь!—свіснула куля і ўпілася ў пень... «Тры разы ў мяне, два—там на шашы. Засталося дзве кулі».

— А ну, стрэльні яшчэ! — і, намацаўшы каля сябе падыходзячую галінку, прыўзняў над галавой фуражку. Куля свіснула, не закрануўшы яе. «Дрэнна страляе... А, можа, нервуецца. Яшчэ раз! Яшчэ раз павінен стрэліць...»

Шорахаў, быццам падначальваючыся волі падпалкоўніка, стрэліў.

Шаг не пачуў свісту кулі—злачынец страляў у другі бок. З процілеглага канца паляны пачуўся голас Малахава:

— Кідай зброю, выходзь! Уцякаць няма куды—акружаны! Праз тры секунды адкрыем агонь! Раз...

У лясной цішыні гулка прагучаў сабачы брэх.

«Службова-вышукная», — падумаў Шаг.

Ён устаў на ўвесь рост, атрос з сябе лісце, травінкі, і закрочыў да дрэў. Прыняўшы яго дзеянні, як загад да наступлення, з усіх бакоў на паляну выбеглі міліцыянеры. Усе яны бачылі, як з кустоў падняўся забойца. Шаг падышоў да яго раней за ўсіх.

— Кінь зброю, Шорахаў! — голас падпалкоўніка быў звычайны, нібы сустрэліся на чарговым допыце.

Шорахаў падняў пісталет да сваіх грудзей... Потым рука са зброяй рванулася да скроні... І раптам, адкінуўшы пісталет далёка ў кусты, забойца глуха завыў і, слізгаючы спіной па шаршавым ствале дрэва, павольна споўз уніз. Але калі Шаг падышоў да яго, ён, не перастаючы выць, кінуўся на падпалкоўніка з перакошаным ад злосці тварам. Шаг быў гатовы да ўсяго. Ён зрабіў рэзкі кароткі рух рукамі, і Шорахаў рухнуў на зямлю...

